Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

9 - 15 мая 1997 года

# Рэгіянальная газета




Зірніце на неба!

№19 (107)

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ



# ПЕРАМАГЛІ!

**А і сапраўды — перамаглі!**

**Перамаглі ў вайне, дзе поруч з дарослымі мужчынамі станавіліся ў адны шэрагі жанкі, юнакі і нават дзеці. Для беларусаў усе войны супраць Бацькаўшчыны былі народнымі. Яшчэ з часоў Полацкай дзяржавы. І ніколі вораг не шкадаваў наш люд.**

**Мы перамаглі фашызм, каб нават цень яго ніколі не крануў нашую зямлю. Мы — перамаглі!**

## Кветкі для ветэрана

У 1942 годзе на Вілейшчыну прыбыў упаўнаважаны ЦК камсамола Беларусі Сяргей Андрэеў, які, як потым сталася, назаўсёды звязаў свой лёс з нашай зямлёй. Ён пачаў з таго, што стаў аб'ядноўваць паасобныя групы моладзі ў баяздольную маладзёжную падпольную арганізацыю. Амаль год ён адзін кіраваў камсамольска-маладзёжным падполлем. З 10 кастрычніка 1943 распачаў сваю работу падпольны Куранецкі райком камсамола, які і ўзначаліў Сяргей Андрэеў. Сакратаром па прапагандзе прызначылі Ганну Кашыцкую, якая неўзабаве стала і жонкай С.Андрэева.

Юнакі і дзяўчаты праводзілі гутаркі з сялянамі, арганізоўвалі сходы жыхароў вёсак, распаўсюджвалі лістоўкі, падпольную раённую газету "Савецкая вёска", зводкі Саўінфорбюро, здабывалі разведвальныя дадзеныя аб праціўніку, рыхтавалі дыверсіі, трымалі пастаянную сувязь з Вялікай Зямлёй. Сяргей Андрэеў сам чатыры разы пераходзіў лінію фронту.

Марозныя зімы і раненні падарвалі яго здароўе. І ў сярэдзіне 70-х урачы ампутавалі яму нагу. Аднак хвароба прагрэсіравала і праз два гады Сяргей Нікандравіч застаўся без абедзвюх ног. Але і ў такім становішчы ён знайшоў у сабе сілы змагацца. Незадоўга да смерці я гутарыў з Сяргеем Нікандравічам па тэлефоне і пачуў ад яго такія словы: "Я ж аптыміст, а аптымісты без бою не здаюцца. Я пераадолеў усе перашкоды і ганаруся тым, што магу прыносіць людзям карысць".

Вось у чым бачыў сэнс свайго жыцця Сяргей Нікандравіч. Ён сустракаўся з моладдзю, з захапленнем расказваў аб барацьбе нашага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. А дома яшчэ такой-сякой дапаможнай гаспадаркай займаўся. Гэты чалавек, дастойны глыбокай павагі, змог зрабіць сваё жыццё карысным нават тады, калі, здавалася, яно станавілася невыносным.

Былога падпольшчыка і партызана ведала ці не ўся Вілейка, дзе ён апошнія гады жыў з сям'ёй на вуліцы Чырвонаармейскай, на святы выязджаў на сваёй калясачцы, каб сустрэцца з тымі, каго ведаў з часоў нялёгкай маладосці. На здымку, які публікуецца ўпершыню, вы бачыце Сяргея Нікандравіча АНДРЭЕВА з кветкамі ў руках падчас святкавання саракагоддзя Перамогі 9 мая 1985 года.

*Барыс МАНЦЭВІЧ,*
*фота А. МАНЦЭВІЧА.*

## Прымай палеткі, беспрацоўны

***Згодна з апошнімі заканадаўчымі актамі, беспрацоўныя, што стаяць на ўліку ў цэнтрах занятасці, за год павінны месяц адпрацаваць на грамадскіх работах. Інакш яны не атрымаюць грашовую дапамогу па беспрацоўі. Праўда, гэта не датычыць моладзі да 18 гадоў, інвалідаў, жанчын, якія маюць дзяцей да 3 гадоў, асоб перадпенсійнага ўзросту, а таксама тых, што выехалі з забруджанай зоны.***

*МАЛАДЗЕЧНА.* Каля 1700 беспрацоўных абавязаны штомесяц адпрацаваць па два дні на работах, якія не патрабуюць спецыяльнай прафесійнай падрыхтоўкі: калгасных палетках, прыбіранні тэрыторыі, падсобнымі рабочымі... За чатыры месяцы (перад з'яўленнем новых правілаў)— у грамадскіх работах прынялі ўдзел 350 чалавек.

Рашэннем гарвыканкома на II квартал зацверджана пяцідзённая норма аплачваемых грамадскіх работ. Два дні за месяц— рэальна. Справа ў іншым— ці будзе дзе працаваць? На сёння заключаны дагаворы з ВА "Камунальнік", СПМК-88, МПМК-87, малымі прадпрыемствамі "Геліос" і "Фенікс", СП "Каларыт".

*Заканчэнне на 2-й стар.*

## Паціснуць руку мужнага чалавека

***МАЛАДЗЕЧНА.** Крадуць усё, што рухаецца,— сказалі ў дзяржаўтаінспекцыі. А ў ГРАУС удакладнілі: часцей цягнуць з машын, чым тыя ж машыны. Па статыстыцы, кожныя паўтара тыдня выкрадаецца чарговая машына. Магчыма, у вясення-летні сезон перыядычнасць узрасце. Машыну знаходзяць (калі знаходзяць), вяртаюць уладальніку і, акрамя спецыялістаў, мала хто ведае, як яна адшуквалася.*

Лейтэнант міліцыі Казімір Шуцько сочыць за правапарадкам, праводзіць прафілактыку правапарушэнняў на сваім "Усходнім" участку. Акрамя гэтага абавязаны працаваць па лініі ДАІ. У канцы красавіка і Шуцько нёс службу ў аператыўнай групе дзяжурнай часці.

Пасля 22 гадзін прайшло паведамленне, што ад магазіна "Віленскі шлях" выкрадзены ВАЗ 2106 1991 года выпуску. Па загадзе дзяжурнага, маёра Алега Абрамовіча, быў уведзены план "Перахват". Праверылі бліжэйшыя гаражныя кааператывы. На выездзе з горада ў напрамку Валожына заўважылі скрадзеную машыну. Трое выкрадальнікаў імкнуліся адарвацца ад праследнікаў. Участковы інспектар на хаду выскачыў з міліцэйскай машыны, са зброяй у руках апынуўся наперадзе злачынцаў. Абедзве машыны спыніліся. Пасля кароткай сутычкі згоншчыкі былі затрыманы і дастаўлены ў дзяжурную часць.

Карэспандэнт "РГ" сустрэўся з Казімірам Шуцько і ўдзячна пацінуў яму руку. Паболей бы такіх людзей.

*Аддзел інфармацыі.*

**Навіны**

## Фіны і эстонцы ўпадабалі смаргонцаў

***СМАРГОНЬ.** Тры гады, як наладжана супрацоўніцтва мясцовых прадпрыемстваў з Фінляндыяй. Фірма "Борэал" пастаўляе ў раён насенне яравога рапсу, у калгас імя Леніна. Фіны прывезлі сушыльны комплекс.*

Апошнім часам супрацоўніцтва значна пашыраецца і пераўтвараецца ў трохкутнік— падключыліся эстонцы. Яны распрацоўваюць тэхналогію, на аснове якой фіны паставяць на мясцовы завод сухога абястлушчанага малака абсталяванне для выпуску ёгурту, а на Сольскі агароднінасушыльны— для вытворчасці натуральных сокаў, сокаў з канцэнтратаў, прадуктаў з бульбы.

*Тарэса КУМІШЧА.*

## Не падвяла

***МЯДЗЕЛ.** Педагог-арганізатар Нарачанскай СШ №1 Жанна Салаўёва стала пераможцай раённага конкурсу "Важаты года".*

Не падвяла яна землякоў і на абласным конкурсе ў Маладзечне. Сярод 23 удзельнікаў стала трэцяй.

*Яніна БУГЛАК.*

**Анонс!**



**Наступны нумар — 20,**
але не гэта галоўнае, у ім —

***МАЛАДЗЁЖНЫ ЎКЛАДЫШ***

**Чытайце праз тыдзень!**

Пачалася **падпіска** на перыядычныя выданні на II паўгоддзе. Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях. Спадзяемся, вы не забудзецеся пра **"Рэгіянальную газету" (падпісны індэкс 63212).**

Чарговыя заняткі з юнымі карэспандэнтамі пройдуць у панядзелак, 12 мая, а 16-й гадзіне. Тэл. для даведак 69667.

*Дапаможнікі па гісторыі Беларусі*

можна набыць у памяшканні "Рэгіянальнай газеты", у кнігарнях "Спадчына" і "Сучаснік" (Маладзечна), у Вілейцы (даведкі па тэл. 55194, капіравальны цэнтр "Парус" у гасцініцы "Вілія"), у Смаргоні (даведкі па тэл. 33010, 51635), у Астраўцы (даведкі па тэл. 26500).

